Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 14 - 20 лістапада 1997 года

# Рэгіянальная газета

МАЛАДЗЁЖНЫ ЎКЛАДЫШ № 6
3 і 6 старонкі
№46 (134)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Света: Маладзечна, 23 гады, рост 168, вага 48; любіць мультфільм "Крылы, ногі і хвасты", па вечарах аддае перавагу кампаніі сяброў, у любы час не любіць хлусню, здраду.*

*Фота Сяргея КАПУЦКАГА.*

Конкурс "Фотамадэль рэгіёна" працягваецца. Узяць удзел запрашаем усіх жадаючых. Пераможцу чакае прыз ад "РГ". Чытачы свае галасы аддаюць пакуль што Каці (яе фота змешчана ў № 42).

## 80 год рэвалюцыі адзначылі сціпла. Прычынаў для радасці сапраўды мала

*МАЛАДЗЕЧНА. 7 лістапада на Цэнтральнай плошчы ля помніка У. Леніну адбыўся непрацяглы мітынг, прысвечаны 80-й гадавіне рэвалюцыі. Прыйшлі каля 70 прыхільнікаў леварадыкальнай камуністычнай арыентацыі, "узброеных" сцягамі былых СССР і БССР.*

Лідэр мясцовай арганізацыі КПБ **А. Карпенка** заследчыў курс партыі на адраджэнне сацыялістычнай дзяржавы, падтрымку палітычнай і эканамічнай дзейнасці прэзідэнта (дарэчы, у адрозненне ад цэнтральнага кіраўніцтва, такой думкі прытрымліваецца і раённая арганізацыя ПКБ).

У параўнанні з мінулым рэферэндумным годам, на гэты раз не было ні шчодра развешаных аб'яў і лістовак, ні духавога аркестра, ні гукаўзмацняльнай апаратуры, ні традыцыйных для падобных акцый палітычных апанентаў і міліцыі.

*Алесь ЦАДКО.*

*ВІЛЕЙКА. Людзі па-ранейшаму сталага ўзросту прайшлі калонай пад чырвонымі сцягамі ад плошчы Свабоды да плошчы імя Леніна. Кветкі да помніка правадыру той рэвалюцыі ўсклалі ад гаррайвыканкомаў, гарадскога і раённага Саветаў дэпутатаў.*

Урачысты сход, што адбыўся ў ДК, адкрываў старшыня гарвыканкома **Пётр Юдо**. Старшыня гарсавета **Ганна Шэпелева** пасля экскурсу ў мінулае адзначыла, што эканамічныя паказчыкі сведчаць: Беларусь жыве. А ў горадзе паспяхова працуюць АТ "Буддэталі", хлебазавод, рамонтны завод, НП "Мэблевая фабрыка", мехмайстэрні.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

*СМАРГОНЬ. Кветкі да помніка Леніну ўскладала калона ў чалавек 40. Без музыкі, чырвоных сцягоў.*

Мітынг, прысвечаны юбілею, не адбыўся - на яго прыйшлі трое камуністаў. Затое ў вялікай колькасці прысутнічалі ахоўнікі парадку.

На ўрачыстым сходзе ў РДК са святам прысутных павіншаваў намеснік старшыні райвыканкома **Аляксей Апановіч**.

*Альберт КУМІШЧА, Валянціна ВЕШТАРТ.*

*АШМЯНЫ. На ўрачыстым сходзе панаваў прыўзняты настрой. У гаспадарках раёна чакаецца прыбытак, без стратаў працуюць мясакамбінат, кавава-цыкорная фабрыка, з-д "Радыётэхніка".*

Старшыня райсавета **Іван Пляхімовіч** павіншаваў са святам. Святочны настрой падтрымаў фальклорны калектыў "Крыніцы". Камуністы ўсклалі кветкі да помніка Леніну.

*Аляксандр КАРАНЕЎСКІ.*

*МЯДЗЕЛ. Святочны мітынг, на які запрасілі прадстаўнікоў працоўных калектываў раёна, прайшоў на плошчы Леніна.*

Адкрыў яго старшыня райвыканкома **Іосіф Варановіч**. Ён асабліва заўважыў, што ў нашай рэспубліцы гэтая гістарычная падзея адзначаецца пасля перапынку ўжо ў трэці раз. Не было ўшанавання лепшых калектываў, але да помніка Леніну кветкі і цэлыя гірлянды традыцыйна ўсклалі.

*Яніна БУГЛАК.*



*АСТРАВЕЦ. Хто ў касцёл, а хто і на канцэрт - своеасабліва тут адзначылі Кастрычнік.*

У РДК перад прадстаўнікамі арганізацый і ўстаноў, якім загадалі там быць, запланавана выступіў старшыня райвыканкома **Мечыслаў Кудырка**. Хаця былі і добраахвотнікі - у асноўным, цікаўныя студэнты і школьнікі. На заканчэнне мерапрыемства мясцовыя артысты давалі канцэрт.

Значная ж частка астраўчан хадзіла ў касцёл Косма і Дзям'яна, каб выправіць у іншую парафію фігуру Маці Божай Фацімскай. Дарэчы, і ў касцёле, і ў РДК "дзействы" пачаліся адначасова.

*Аддзел інфармацыі.*

*ВАЛОЖЫН. Арганізавана ўскладання кветак да помніка Леніну не было. Але граў духавы аркестр на плошчы, нібы запрашаў на ўрачысты сход у РДК.*

Адкрыў яго старшыня райвыканкома **Валянцін Малішэўскі**. З грунтоўным дакладам выступіў старшыня райсавета **Сяргей Маляўскі**. Як звычайна, успомнілі герояў таго часу, асудзілі белавежскія пагадненні.

*Тацццяна ШАБЛЫКА.*

## Саладуха за 70000

*СМАРГОНЬ. На гэтым тыдні ў горадзе прайшлі два канцэрты Аляксандра Саладухі.*

Білеты па 70 тысяч спрыялі поўным залам. Працаваў співак без фанаграмы. Удзячная публіка доўга не адпускала яго са сцэны.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

## Падпіска - 98

Наўрад ці кожны швейцарац ведае, што і ў Берне, іх сталіцы, праводзіў гады эміграцыі сумна вядомы ўсяму свету Уладзімір Ульянаў (Ленін). Каб ён там затрымаўся, то на калоне ў цэнтры горада стаяла б зусім іншая постаць. Але ёсць эмігранты, якім мы рады. Яны заўсёды вяртаюцца, негледзячы на палітычнае становішча на радзіме. Як гэтыя буслы на калоне-указальніку "Вілейка". Межы ім не перашкода. Нам цяпер дабрацца да Швейцарыі значна цяжэй. Хаця і там, напэўна, можна атрымліваць *"Рэгіянальную газету"*, але, шаноўныя, у нашым рэгіёне

**ПАДПІСАЦЦА ЗНАЧНА ЛЯГЧЭЙ!**



Падпісная цана застаецца ранейшая:

на

1 месяц-8 тыс. р.

3 месяцы-24 тыс. р.

паўгода-48 тыс. р.



Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

Сектар спорту

# Кожны заплыў як подзвіг

*МАЛАДЗЕЧНА. З пяці беларускіх спартсменаў-інвалідаў па зроку на чэмпіянат Еўропы ў Італію паехалі два. Не было сродкаў. Трэнер ДЮСШ Уладзіслаў Антонаў, які адказвае і за падрыхтоўку зборнай рэспублікі, хоча змяніць сітуацыю.*



- З тых 5 спартсменаў усе трое "адстаўнікоў" з Маладзечна,- гаворыць Уладзіслаў.- Была магчымасць звярнуцца па дапамогу да прэзідэнта нацыянальнага параалімпійскага камітэта **Ігара Жалязоўскага**, але кіраўніцтва палічыла інакш. Наогул, плаванне сярод інвалідаў мае адметныя рысы - можна не трэніравацца і стаць чэмпіёнам. Парадокс. Але сляпога плыўца і немагчыма адразу знайсці. Гэта не спорт здаровых, калі за памылку "з'ядуць", "патопяць", а на вызваленае месца ў зборнай знойдуцца дзесяткі. У "сляпым" спорце ўсё наадварот. Чалавек 50 у краіне ведаюць адзін аднаго. За месяц да спаборніцтваў пачынаюць уваходзіць у форму. І перамагаюць. Адсутнічае канкурэнцыя.

**- Тады навошта параалімпійскі рух! Гэта проста гульня!**

- Тут зерне гуманнасці. Выйграў, прайграў - эмоцыі. Чалавек жыве. Часам на спаборніцтвах вынік робіцца "на зубах". Трэба бачыць, калі 100 метраў бягуць на адной назе. Гэта подзвіг! На чэмпіянаце Беларусі, бывае, плывуць поўнасцю сляпыя. На ўсялякі выпадак іх акуляры фарбуюць у чорны колер. Такі спартсмен лічыць колькасць грабкоў на дыстанцыі 25 м, перад паваротным шчытом куляецца, не разбіваючы сабе галаву, пальцы. Прафесіяналізм. І тым не менш, чэмпіёнам Беларусі можна стаць з 3 разрадам.

**- Няўжо невысокія спартыўныя вынікі і на Еўропе!**

- Ад нас пакрыху адрываюцца. Ёсць выпадкі, што і з дапамогаю беларусаў. Да прыкладу, барысаўчаніна запрасілі жыць, трэніравацца за мяжой. Каб паспяхова выступіў на Параалімпійскіх гульнях у 2000-м годзе. Не за нашу краіну, натуральна.

**- Вы адказваеце за падрыхтоўку інвалідаў-плыўцоў, таму пытанне: няўжо на тых самых гульнях будзе "старая" зборная з невысокім патэнцыялам!**

- Калісьці трэнер **Ганна Трубач** заклала падмурак, падрыхтавала рэкардсмена свету **Аляксея Конана**, чэмпіёнку Беларусі **Валянціну Акульскую**, удзельніка чэмпіяната Еўропы **Юрыя Урбановіча**. З гэтымі спартсменамі працую і сёння, яны ходзяць на трэніроўкі. Але іх не надта радуе два разы на год стартануць і нічога матэрыяльнага за гэта не атрымаць. Хачу змяніць сітуацыю. Набраць "дробязь" і выхаваць чэмпіёнаў. У моладзі яшчэ іншая свядомасць. Ужо сёння васьмікласнік **Павел Рамановіч** рэальна прэтэндуе прадстаўляць каманду ў 2000-м годзе на Параалімпіядзе.

**- Якое адрозненне ў падрыхтоўцы здаровых і інвалідаў!**

- Звычайна выкарыстоўваецца метад паказу. Убачыў - зрабіў. Хлопчыка-інваліда трэба выцягнуць з вады, узяць яго рукі. І толькі мышачнай памяццю ён выконвае заданне. Для іх самы цяжкі від плавання - батэрфляй. Наогул, горад мае ўсе ўмовы для падрыхтоўкі спартсменаў-інвалідаў. Практычна заўсёды мясцовыя складалі фундамент нацыянальнай зборнай. А сродкі? У горадзе генеральны дырэктар БелТІЗа **Сяргей Мінкоўскі**, яго намеснік **Іван Радвіловіч** матэрыяльна падтрымліваюць падрыхтоўку спартсменаў-інвалідаў. Урад рэспублікі павінен павярнуцца тварам да параалімпійскага руху. Каб новыя спартсмены ўпісвалі новыя радкі ў гісторыю перамог. "Стары конь баразны не псуе", але ж "Балівару не вынесці дваіх". Стаўка мусіць рабіцца на моладзь.

*Васіль САВІЦКІ.*



Навіны

## Для машын - аўкцыён месцаў

*ВІЛЕЙКА. Платная аўтастаянка па вул. Незалежнасці - побач з вакзаламі. Хутка аб'ект камунальнай уласнасці зменіць гаспадара.*

Ён будзе выстаўлены на аўкцыён з пачатковым коштам у 410 мільёнаў рублёў. Правядзенне яго прызначана на 5 снежня.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Міграцыя. На суседнюю вуліцу

*АШМЯНЫ. 7 гадоў будавалася СШ №1. Днямі частка вучняў, настаўнікаў перасялілася ў новы будынак.*

Навучальная ўстанова будуецца паэтапна. З 33 класаў запрацавалі 21, а ў хуткім часе за парты сядуць 1300 дзяцей. Да канца года плануецца ўвесці актавую і спартыўную залы, сталоўку.

Стары будынак школы вызначаецца 1929 годам.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

## Пачакаем да жніўня

*АСТРАВЕЦ. У хуткім часе на картах раёна з'явіцца яшчэ адна дарога - у аб'езд вёскі Малі.*

Працягласць яе складзе амаль тры кіламетры. Да работ прыступіла ДРБУ-149, якое зарэкамендавала сябе з лепшага боку на будаўніцтве аб'язной дарогі вакол Астраўца. Адкрыць рух па новай дарозе мяркуецца ў жніўні будучага года.

*Янук СІВАКОЎ.*

Краязнаўства

# Ад замка да бальнічнага комплексу

*МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню Радашкоўскі замак згадваецца ў адным з інвентароў Радашковічаў за 1549 г., калі вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст правёў "списание и выведанье замков, дворов и волостей", у тым ліку "замку Радашковского".*



План-схема замка. У цэнтры - чатырохпавярховая вежа. Апошні паверх выкарыстоўвалі для абароны.

Замак размяшчаўся паміж двума ставамі па рэках Гуйка і Вязынка, па "каппцы сыпаным", і быў збудаваны накшталт карабля (формай нагадваў няправільны чатырохвугольнік).

Вада абкружала замак з усіх бакоў, і прайсці да замкавай вежы-брамы можна было толькі па пад'ёмным мосце, перакінутым праз роў перад брамай. Вежа была рубленая з вялікага бруса вышынёй у чатыры паверхі.

Першы паверх яе праразалі вароты. На другі паверх вёў "усход", праз які траплялі ў прыстасаваныя для абароны "секі". Трэці паверх быў таксама прыстасаваны для абароны. Тут стаяла невялікая гармата - "дельцо железное семи пядей, куля якобы гусиное яйцо, в ложы чорной на козлах деревяных". З дакумента вынікае, што "с тое секи троха вышэй вежа кругло будовала". Дах вежы быў абабіты "белым железом".

Злева ад вежы-брамы стаяла другая трохпавярховая квадратная вежа. Трэці паверх яе таксама быў прыстасаваны для абароны - "дело железное полдевяти пяди, куля большая, пигало, кулак, в ложы чорном железом окованом, на кожле деревяном". Вежа была квадратная. На адлегласці ў 40 сажняў ад другой вежы ў куце замка стаяла рубленая з бярвёнаў трэцяя вежа. Яна была звязана з чацвертай круглай. Гэтая апошняя вежа замка злучалася сцяной з уваходнай вежай-брамай.

У Радашкоўскім замку была яшчэ адна вежа. Яна месцілася асобна на падворку і мела чатыры паверхі, тры з якіх выкарыстоўваліся на гаспадарчыя, а чацверты - на абарончыя патрэбы.

Паколькі замак быў драўляны, час не пашкадаваў яго. Цяпер на былым замчышчы размешчаны бальнічны комплекс.

*Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.*

Зірні на неба

## За ўсходам

*Недалёка ад аўтобуснага прыпынку сустракаю грыбнікоў - жанчын і мужчыну. Ён ведаў, што я ветэран Айчыннай вайны, павітаўся і гаворыць: "За грыбамі, таварыш палкоўнік?" А я адказваю: "Ніяк не, таварыш генерал! За ўзыходам". На тым і разышліся, а яны, напэўна, падумалі: "Вось дзівак-чалавек!"*

Назіраю за небам. Садзіцца густы туман. Неба мяняецца кожную хвіліну. Праехала машына, уздымаючы пыл на дарозе, потым дзве жанчыны на веласіпедах, прашамацеўшы шынамі. Грыбнікі з кошыкамі. Падыходжу да маста і спыняюся. Да ўзыходу хвілін пяць.

*Аляксей ФЯЦІСАЎ, фота аўтара.*

Сектар спорту

## Футбол

**1 ліга. 29-30 туры.**

"Шахцёр" - "**Маладзечна**" 0:1

"**Маладзечна**" - "Нафтан-Дэвон" 3:2

Такім чынам, нашы землякі атрымалі дзве перамогі на фінішы чэмпіянату і захавалі за сабой месца ў 1 лізе. Каб пазбегнуць на наступны сезон сёлетніх праблемаў, трэба шмат што (і каго?) памяняць. Мы будзем адсочваць падзеі і паведамляць пра ўсе істотныя навіны. Знойдзецца месца на старонках "РГ" і для цікавай статыстыкі.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

Маладзёжная рэгіянальная газета № 6

## Паштовая скрынка маладзёжкі



### Прыгоды юнага мастака

Зіма ўхутала зямлю тоўстай снежнай коўдрай. Холадна і голадна ў гэтую пару птушкам.

Марозным сонечным ранкам Дзяніска выйшаў у сад, каб зрабіць замалёўкі да ўрока малявання. На маладой бярозцы сядзелі снегіры. Хлопчык паставіў крэсла на снег, уладкаваўся. Ні з таго, ні з сяго ножка крэсла паехала. Дзяніска зваліўся. Снегіры спалохаліся, узняліся ўгору. Юны мастак зразумеў, што птушкі больш не вернуцца.

Тады хлопчык рашыў схітрыць. Прымацаваў паламанае крэсла да дрэва, пасыпаў крошак у самаробную кармушку. І птушкі вярнуліся! Неўзабаве яны дзяўблі корм, не звяртаючы на мастака ніякай увагі.

Пакуль птушкі сілкаваліся, хлопчык паспеў зрабіць цудоўны эскіз да малюнка.



### Пушчанскія таямніцы

*Здароў, пушчанскі лес стары!*
*Дзе ходзіць зубар у бары,*
*Дзе рысь на дрэве жмурыцца,*
*Пад кусцік зайка туліцца.*
*Дзе на паляне лось раве,*
*А ў гушчары - лясун жыве.*
*Мураш сцяжынаю бяжыць,*
*Сабе сняданак валачэ.*
*Павук пасцельку нанач тчэ,*
*А пад ялінай - воўк ляжыць...*
*Дзе столькі дзіўнага яшчэ!..*
*Здароў, пушчанскі лес стары,*
*Дзе ходзяць валаты-зубры.*



**Максім КУРЫЛА, 5"А" клас Валожынскай СШ №1.**

# Дзве нагі на трох нагах...

**Да нас заляцела "Пчала" ў выглядзе ўдзельнікаў "Прэс-цэнтра" з такой назвай са Смаргоні. Знаёміліся, пілі гарбату, разглядалі камп'ютэры. І самае галоўнае, дамовіліся сябраваць. Аб выніках сяброўства будуць сведчыць старонкі "МРг" з іх творчасцю.**



Дружнай кампаніі юных карэспандэнтаў са Смаргоні дапамагла наведаць нас кіраўнік прэс-клуба Саіда ВАФІНА.

А ў гэтым нумары чытайце навінкі, рэцэпты ў рубрыцы "Наша кухаханька", розыгрышы і загадкі.

Як, напрыклад, такая -

*Дзве нагі на трох нагах*
*А бязногая ў зубах.*
*Тут чатыры падкраліся*
*І з бязногай падаліся.*



## Адгаданка

## Апошні тур конкурсу - тут ужо не да смеху...

*Перадапошні тур аказаўся вельмі складаны. Падказка была ў словах: "гэтая музыка хутка скончыцца". Фраза з песні вядомага гурта "Наўцілус Пампіліус", а ўсе тры ўсмешкі належылі аднаму чалавеку - Славе Бутусаву.*







Лідэр застаецца ранейшым - **Марыя Мялешка**, на жаль выбылі з гульні віктанкі **Насця Манцэвіч** і **Яўгенія Яліна**.

**АПОШНІ ТУР.** У ім нават не прыйшлося нешта перараблядь, бо гэтыя твары (пысы) цяжка ўявіць без іх усмешак. Калі вы ра шыце што гэта жарт, вы не памыліцеся. Але каштуе кожны дак адны адказ 5 балаў, усе тры - адразу 20! Тэлефануйце, пішыце да 8 снежня. У "маладзёжцы" №7 даведаецеся каму дастанецца прыз.

**Дзядзька ГО.**

## Наша кухаханька

### БАНАНАВЫ САНДЗІ

Пастаўце на стол велізарную талерку. Пакладзіце ў яе марожанага грамаў 150, нарэжце 2 бананы, наліце 2 шклянкі соку, лепей апельсінавага. Мяшайце. Памятайце пра цукар. Пакаштуйце... Смачна? Ешце!

### ШАКАЛАДНАЕ ЖЭЛЕ

Ад шакаладкі пакіньце пару кавалачкаў. У кіпячоным малацэ іх трэба распусціць. Дадаць цукар, ванілін, пакласці жэлацін. Потым усё ўліць у шклянкі і паставіць у маразільнік. Трывайце шэсцьдзесят хвілін, а потым ужывайце.



### "ХРУСЬ"

З халадзільніка нам трэба паўкіло масла, чатыры яйкі. З буфета паўкіло мукі і пару шклянак цукру. Усё перамяшаць і раскатаць у блін. Адцісніць розныя фігуркі. Выпякаць. Гатова! Але пакуль не ешце. Усё паставіць неабходна ў "дрыхляч" - стары халадзільнік і забыцца пра пячэнне на гадзіну! Потым - цешцеся.

**Зоя ШУТОВІЧ, "Прэс-клуб", Смаргонь.**

# "Дзеці думаюць пра дзяцей"

*СМАРГОНЬ. Так называлася дабрачынная акцыя, што прайшла ў горадзе. Канцэрты адбыліся аднačасова ў школе-інтэрнаце, гарадскім Доме культуры і загарадным аздараўленчым цэнтры "Лясная паляна".*

Я была ў Доме культуры і атрымала вялікае задавальненне ад выступленняў дзіцячых калектываў з Магілёўшчыны, Гомельшчыны і Брэстчыны. Цудоўна жангліравалі, каталіся на адным коле і скакалі праз канат артысты дзіцячага цырка "Транзіт" з Мінска. А маленькая спявачка з вёскі Фядоры, што ў Столінскім раёне, зачаравала сваім выступленнем усю залу.

У другім аддзяленні выступалі дарослыя артысты. Смаргонцы сустрэліся са **Стэлай**, якая разам з **Э. Зарыцкім** падарыла ім новую песню. **В. Стральчэню** выклікалі на "біс". Ансамбль вандроўных музыкантаў "Янька" развесяліў гледачоў сваімі жартамі, а група "Рунь" з тэхналагічнага ўніверсітэта прымусіла іх пабываць у цыганскім табары. Не засталося ніводнага абыякавага, кожнае выступленне сустракаў гром апладысментаў і воклічы: "Брава! Малайцы!".



**Ірына НІКІЦЕНКА, "Прэс-клуб", Смаргонь.**

# Вікторыя - гэта перамога

***У №1 "маладзёжкі" мы пазнаёмілі вас з газетай, якую выпускае вілейская харугва скаўтаў імя Якубы Ясінскага - "Лілея". Зараз іх выданне ў небяспецы. Яны будуць вымушаны закрыцца, калі ўступяць у сілу папраўкі да Закона аб друку. Спадзяемся, што карэспандэнты гэтага цікавага выдання не закінуць сваю справу, а мы са свайго боку з задавальненнем прадаставім ім нават не адну калонку "маладзёжкі" - NO PASARAN!***

***Зараз прапануем чытачам інтэрв'ю з вядомай у Вілейцы юнай спартсменкай Вікай ВЯРОЎКІНАЙ, якое было надрукавана ў №10 "Лілеі".***

**Карэспандэнт:** <u>З якога ўзросту ты пачала сур'ёзна займацца спортам?</u>

**Віка:** Усё пачалося з красавіка 1996 года, калі я трапіла на зборы ў Пінск. Менавіта там я вырашыла прысвяціць сябе спорту. А першыя заняткі пачаліся ў маміным жыцаве, калі яна, не паспеўшы на цягнік, даганяла яго.

**К.:** *<u>Якім чынам ты трапіла ў зборную рэспублікі? Гэта толькі твая заслуга ці ёсць людзі, якія так сама да гэтага спрычыніліся?</u>*

**В.:** Калі шчыра, я нават сама не заўважыла, як туды патрапіла. Гэта была юнацкая зборная.

Паспрабую растлумачыць.

*Заканчэнне на 6-й старонцы.*



Аднойчы скакаў каўбой на кані па прэрыях. І захацеў выпіць шклянку вады. Дабраўся да бліжэйшага бара, зайшоў у яго і папрасіў вады. Бармэн дастаў рэвальвер і стрэліў у паветра. Каўбой сказаў "дзякуй" і выйшаў.

<u>Чаму ён выйшаў не напіўшыся?</u>

**Юля ФЯДЗЯЕВА, "Прэс-клуб", Смаргонь.**

Адказ: "Імідж - нішто. Смага - усё!"

# ПРАГРАМА
## Т Э Л Е Б А Ч А Н Н Я

## ПОНЕДЕЛЬНИК 17 НОЯБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** "Заповедное гнездовье". Д/ф.
**08.00** Резонанс.
**08.50** "Телебарометр".
**09.00** Здоровье.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**9.40** Темная комната.
**10.05** М/ф.
**10.20, 18.15** Х/ф "Время для размышлений".
**11.25** Телевизионный Дом кино.
**11.55** "Макбет". Спектакль.
**13.00, 15.00, 18.00, 23.30** Новости.
**14.25** Бон тон.
**15.15** Видеокурс немецкого языка.
**15.35** ТВ — школе. География.
**16.05** М/ф.
**16.15** На добрый лад.
**16.30** Гости в дом.
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Творцы.
**18.15** "Время для размышлений". Х/ф.
**19.25** Тема дня.
**19.45** В.Брюсов. Моноспектакль "Зеркало".
**20.05** Криминальная хроника.
**20.25** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** "Дом, в котором живу". Х/ф.
**23.40** Хоккей.

**ОРТ**

**17.00, 00.25** Новости.
**17.20** "Девушка по имени Судьба".
**18.00** Погода.
**18.10** Час пик.
**18.35** Угадай мелодию.
**19.00** "Мы".
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** "Полтергейст".
**21.50** "Театр + ТВ".
**22.35** Х/ф "Девушка без адреса".

**РТР**

**07.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**07.20, 23,15** Дежурная часть.
**07.35, 17.55** "Королева Марго".
**08.30** Деньги.
**08.50** Торговый дом.
**08.55** Товары — почтой.
**09.05** "Санта-Барбара".
**13.30** Х/ф "Дама с камелиями" (Польша).
**15.20** Графоман.
**15.30** На пороге века.
**16.20** Православный календарь.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.15, 23.30** Прогноз погоды.
**17.20** Лукоморье.
**17.40** "История одного события".
**19.25** Подробности.
**19.45** Национальный интерес.
**20.15** Х/ф "Штаны".
**21.50** "Мой Пушкин".
**22.20** Вовремя.
**22.25** Добрый вечер.
**23.40** Лестница в небо.

**КУЛЬТУРА**

**15.00, 17.00** Новости.
**15.05** "Окно в природу".
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** "Культура городов мира".
**17.05** "2003 год".
**17.15** Планета новостей.
**17.45** "Сокровища Петербурга".
**18.00** Лукоморье.
**18.20** "Документ-ретроспектива".
**19.15** В мире образов.
**20.00, 23.00** Новости культуры.
**20.20** "Берлин. Александрплатц".
**21.20** "Кумиры".
**22.05** "С любовью из Тбилиси".
**23.20** Музыкальный экспромт.

**НТВ**

**15.00** Сегодня днем.
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф "Дикая природа".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.10** Дистанция.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Мистер Стич" (США).
**21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**22.35** Сегодняшко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.25** Синемания: все о кино.

**ТВ-6**

**6.05** М/ф.
**6.30, 17.40, 23.20** Диск-канал
**07.00, 23.00** Дорожный патруль
**07.20** Киноподробно
**07.45, 10.45, 13.45** Аптека
**08.00, 11.00, 14.00, 22.50** ТСН-6
**08.15** Спорт недели "Итоги матча Италия — Россия"
**08.50** О.С.П. — Студия
**09.40, 19.00** "Хроники молодого Индианы Джонса"
**11.10** Х/ф "Под чужим именем" (Югославия)
**14.10** Х/ф "Два долгих гудка в тумане"
**16.05** "Флиппер II"
**16.35** "Обозреватель"
**17.50** "Грейс в огне III"
**18.20, 21.20** Новости
**18.25** Катастрофы недели
**20.00** Новости дня
**20.30** Ток-шоу "Акулы политпера"
**21.25** Бенефис Георгия Менглета

## ВТОРНИК 18 НОЯБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** "Тема для органа". Д/ф.
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.40** Новости.
**08.10** "Я помню чудное мгновенье..." Фильм-концерт.
**09.00** ТВ — школе. География.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**09.40** Творцы.
**10.10** М/ф.
**10.50, 18.15** Х/ф "Сибириада". 1 с.
**12.00** Четвертое измерение.
**12.25** Акколада.
**15.15** "Все про все".
**15.40** ТВ — школе
**16.20** М/ф.
**16.40** "Пограничье".
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Уроки Н.Новожиловой.
**19.25** Тема дня.
**19.40** Познай себя.
**20.05** Телевизионный Дом кино.
**20.30** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** Х/ф "Белые одежды". 1-я с.
**23.10** Третий тайм.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 00.10** Новости.
**08.15** "Девушка по имени Судьба".
**09.45** Смехопанорама.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.30** Угадай мелодию.
**11.15** "Вместе".
**14.20** "Король джунглей". М/ф.
**14.45** Кварьете "Веселая квампания".
**15.00** Счастливый случай.
**15.40** "Космическая полиция".
**16.05** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** "100 лет приключений".
**17.20** "Девушка по имени Судьба".
**18.10** Час пик.
**18.35** Угадай мелодию.
**19.00** Тема.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Романс к юбилею Эльдара Рязанова.
**21.40** Х/ф "Берегись автомобиля".
**23.25** Хоккей. Евролига.

**РТР**

**16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**16.20** Православный календарь.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.15, 23.30** Прогноз погоды.
**17.20** Лукоморье.
**17.40** "История одного события".
**17.55** "Королева Марго".
**19.25** Подробности.
**19.45** Национальный интерес.
**20.20** Х/ф "Сентябрь" (США).
**21.50** "Мой Пушкин".
**22.20** Вовремя.
**22.25** Добрый вечер.
**23.15** Дежурная часть.
**23.40** Горячая десятка.

**КУЛЬТУРА**

**07.00** Музыкальный экспромт.
**07.15, 13.00, 20.00, 23.00** Новости культуры.
**07.30** "Берлин. Александрплатц".
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Образ жизни.
**09.40** "Документ-ретроспектива".
**10.35** Литература. Поэзия.
**11.20** Х/ф "Свинарка и пастух".
**13.15** "Кумиры".
**14.05** Посольские вечера.
**15.05** "Ноу-хау".
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** "Культура городов мира".
**17.05** "2003 год".
**17.10** "Русская усадьба".
**17.35** "Негаснущие звезды".
**18.00** Лукоморье.
**18.20** М/ф.
**18.30** "Документ-ретроспектива".
**20.20** "Берлин. Александрплатц".
**21.20** Памяти З.Е.Гердта.
**23.20** Музыкальный экспромт.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер".
**9.15** Дог-шоу.
**9.45** Куклы.
**10.00** "Доктор Куин, женщина-врач".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**13.20** Х/ф "Злая" (Италия).
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф "Дикая природа".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00**, 21.00 Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Ирония судьбы, или С легким паром".
**23.20** Сегодня в полночь.
**23.45** Фильм-опера "Борис Годунов" (Франция-Испания-Югославия).

**ТВ-6**

**06.05** М/ф
**06.35, 17.25, 00.15, 1.25** Диск-канал
**07.05, 00.00** Дорожный патруль.
**07.20** Рецепты от Цептер
**07.25** Телеконкретно
**08.00, 11.00, 14.00, 23.45** ТСН-6
**08.15** "Обоз"
**09.40, 19.00** "Хроники Индианы"
**11.10** Х/ф "Три билета в Голливуд" (Югославия)
**14.10** "Чисто английское убийство"
**16.07** "Флиппер II"
**16.35** Киноподробно
**16.50** Катастрофы недели
**17.50** "Грейс в огне IV"
**18.20, 21.20** Новости
**18.25** Те Кто
**20.00** Новости дня
**20.25** Ток-шоу "Профессия".
**21.25** Памяти Зиновия Гердта
**22.00** Х/ф "Воры в законе"

## СРЕДА 19 НОЯБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** М/ф.
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.50** Новости.
**08.10** Бездельник.
**08.40** Око.
**09.00** ТВ — школе.
**09.40, 17.45** Экономикст.
**09.50** Туробъектив.
**10.10** "Мир глазами детей".
**10.20** Музыка без границ.
**10.45, 18.15** "Сибириада". 2-я с.
**11.55** Видимо-невидимо.
**15.15** Видеокурс немецкого языка.
**15.35** "5 х 5".
**16.00** М/ф.
**16.10** "Регион".
**16.30** Педагогический экран.
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Арсенал.
**19.25** Тема дня.
**19.35** Темная комната.
**20.00** Ток-шоу "Это моя работа".
**20.25** Авто-парк.
**21.00** Панорама.
**21.45** "Цептер".
**21.50** "Белые одежды". 2-я с.
**23.10** Королевская охота.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00** Новости.
**08.15** "Девушка по имени Судьба".
**09.00** Тема.
**09.40** В мире животных.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.30** Джентльмен-шоу.
**11.15** "Вместе".
**14.20** "Король джунглей". М/ф.
**14.45** "Классная компания".
**15.15** Зов джунглей.
**15.40** "Космическая полиция".
**16.05** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** "100 лет приключений".
**17.20** "Девушка по имени Судьба".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Золотая лихорадка".
**19.10** Человек и закон.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** "Русское радио" в Кремле".
**22.15** Док. детектив "Пеньковский — агент трех разведок".
**23.15** Х/ф "Земные девушки доступны".

**РТР**

**07.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**07.20, 23.15** Дежурная часть.
**07.35, 17.55** Сериал "Королева Марго".
**8.30** Деньги.
**8.50** Торговый дом.
**9.05** "Санта-Барбара".
**13.30** "Судный день". Х/ф.
**14.50** Доктор Богданов.
**15.05** М/ф.
**15.10** Графоман.
**15.20** Лучше не бывает.
**15.25** Эксповестник.
**15.30** Золотая карта России.
**16.20** Православный календарь.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.20** Лукоморье.
**17.40** "История одного события".
**19.25** Подробности.
**19.45** Национальный интерес.
**20.15** Х/ф "Однажды двадцать лет спустя".
**21.40** М/ф.
**21.50** "Мой Пушкин".
**22.20** Вовремя.
**22.25** Добрый вечер.
**23.40** Лестница в небо.

**КУЛЬТУРА**

**07.00** Музыкальный экспромт.
**07.15, 13.00, 20.00, 23.00** Новости культуры.
**07.30** "Берлин. Александрплатц".
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Золотая карта России.
**09.30** Д/ф.
**10.35** "Жалобная книга". Моно-опера.
**11.05** Х/ф "Сказание о земле Сибирской".
**13.15** "В мире образов".
**14.00** Посольские вечера.
**15.05** "Звук моих шагов".
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** "Культура городов мира".
**17.05** "2003 год".
**17.10** Академия спорта.
**17.30** "Резцом и кистью".
**18.00** Лукоморье.
**18.30** "Кто мы?"
**19.00** "Театр одного художника".
**19.20** "Царская ложа".
**20.20** "Берлин. Александрплатц".
**21.25** А.Эфрос.
**22.40** Поет Д.Хворостовский.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05, 10.00** Лучшие цирки мира.
**09.15** "Пойми меня".
**09.45** Кнопка-плюс.
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Х/ф "Боевая сила" (Германия-Югославия).
**13.15** "Среда".
**13.30** Х/ф "На чужом празднике".
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф "Дикая природа".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Одиночка" (Франция).
**21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**22.35** Сегодняшко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.25** Х/ф "Эмигранты" (Швеция).

**ТВ-6**

**14.00, 23.20** ТСН-6
**14.15** Х/ф "Егор Булычев и другие"
**16.00** "Флиппер II"
**16.35** Телеконкретно
**16.50** Те Кто
**17.20** Памяти Зиновия Гердта
**17.50** "Грейс в огне IV"
**18.15, 21.20** Новости
**18.25** Те Кто
**19.00** "Хроники Индианы Джонса"
**20.00** Новости дня
**20.25** Ток-шоу "Я сама"
**21.30** Х/ф "Спорное решение"
**23.35** Дорожный патруль
**23.50, 01.00** Диск-канал

## ЧЕТВЕРГ 20 НОЯБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** М/ф.
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 00.05** Новости.
**08.10** Авто-парк.
**08.20** "Красавка". Киноочерк.
**08.30** Телебом.
**09.00** Мультиклуб.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**09.40** "Грибная охота".
**10.00** Гости в дом.
**10.30, 18.15** "Сибириада". 3-я с.
**11.45** "Полесья милое дитя..."
**12.15** Королевская охота.
**15.15** "Я рисую".
**15.35** Телек-шоу.
**15.50** М/ф.
**16.00** ТВ — школе. Белорусская литература.
**16.30** Родное слово.
**17.00, 20.30** Музыкальный антракт.
**17.10** Уроки Н.Новожиловой.
**19.30** Тема дня.
**19.50** Сделано в Беларуси.
**20.05** "АРТ-клуб".
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** Телебарометр.
**22.05** "Белые одежды". 3-я с.
**23.35** Крок.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 00.10** Новости.
**08.15** "Девушка по имени Судьба".
**09.00** Человек и закон.
**09.35** Пока все дома.
**10.25** "Эти забавные животные".
**11.15** "Вместе".
**14.20** "Невероятные приключения Джонни Квеста". М/ф.
**14.45** "Классная компания".
**15.15** Лего-го!
**15.40** Сериал "Космическая полиция".
**16.05** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** "100 лет приключений".
**17.20** "Девушка по имени Судьба".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Эти забавные животные".
**19.05** "Чтобы помнили".
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Х/ф "Председатель".
**23.40** "Каскадеры. Мир трюков".
**00.25** Х/ф "Агент Далила".

**РТР**

**07.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**07.20, 23.15** Дежурная часть.
**07.35, 17.55** Сериал "Королева Марго".
**08.30** Деньги.
**08.50** Торговый дом.
**08.55** Товары — почтой.
**09.05** "Санта-Барбара".
**13.30** "Первая любовь". Х/ф.
**15.00** М/ф.
**15.10** Графоман.
**15.20** Лучше не бывает.
**15.25** Эксповестник.
**15.30** Ваше сословие.
**16.20** Православный календарь.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.15, 23.30** Прогноз погоды.
**17.20** Лукоморье.
**17.40** "История одного события".
**19.25** Подробности.
**19.45** Национальный интерес.
**20.15** "Альфред". Х/ф (Швеция). 1-я с.
**21.20** Сам себе режиссер.
**22.20** Вовремя.
**22.25** Добрый вечер.
**23.40** Кафе "Обломов".

**КУЛЬТУРА**

**07.00** Музыкальный экспромт.
**07.15, 13.00, 20.00, 23.00** Новости
**07.30** "Берлин. Александрплатц".
**08.30** "Резцом и кистью".
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Золотая карта России.
**09.30** "Царская ложа".
**10.10** "Театр одного художника".
**10.35** "Архитектор Воронихин".
**11.05** Х/ф "Кубанские казаки".
**13.15** "Академия спорта".
**13.35** "Негаснущие звезды".
**14.00** Посольские вечера.
**15.05** "Русское небо".
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** "Культура городов мира".
**17.05** "2003 год".
**17.10** Элвис Пресли.
**18.00** Лукоморье.
**18.20** Ж.Бизе. "Кармен".
**19.20** В гостях у Елены Языковой.
**19.30** "Полубог".
**20.20** "Берлин. Александрплатц".
**21.20** "Музыкальная история".
**22.00** Д/ф.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер"
**09.15** "Пойми меня".
**09.45** "Котовасия".
**10.00** "Доктор Куин, женщина-врач".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**13.20** Х/ф "Предчувствие" (США).
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф "Дикая природа".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Хоккейный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Простая история".
**21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**22.35** Сегодняшко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.25** Фигурное катание.
**23.55** Х/ф "Сон бабочки" (Италия-Швеция-Франция).

**ТВ-6**

**06.05** М/ф
**06.35, 17.00, 00.05, 01.10** Диск
**07.05, 23.50** Дорожный патруль.
**07.20** Рецепты от Цептер
**07.45, 10.45, 13.45** Аптека
**08.00, 11.00, 14.00, 23.35** ТСН-6
**08.15** Ток-шоу "Мое кино"
**09.05** "Казанские сказания"
**09.40, 11.10, 19.00** "Хроники Джона"
**12.30** "Пальчики оближешь"
**13.00, 0.50** Знак качества
**14.10** Х/ф "Самый последний день"
**16.05** "Флиппер II"
**16.35, 18.25** Те Кто
**17.25** "Казанские сказания"
**17.50** "Грейс в огне IV"
**18.15, 20.28ˆ 21.20** Новости
**20.28** Ток-шоу "Сделай шаг"
**21.25** Х/ф "Полицейский"

## ПЯТНИЦА 21 НОЯБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** Музобойма
**07.50** М/ф.
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45** Новости.
**08.10** Телебарометр.
**08.20** Родное слово.
**08.45** Концертный сезон.
**09.00** ТВ — школе.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**09.40** "Все мы родом из детства".
**10.35** М/ф.
**10.50** Бархатный сезон.
**11.20, 18.15** "Сибириада". 4 с.
**12.25** "Зорная ростань"
**15.15** Видеокурс немецкого языка.
**15.35** М/ф.
**16.30** Усадьба.
**17.00, 20.30** Музыкальный антракт.
**17.10** "Прошлое еще впереди". Д/ф.
**19.20** Тема дня.
**19.40** Парламентский вестник.
**20.05** "В джазе только девушки".
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** "Время слуг". Х/ф
**23.55** Акколада.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости.
**08.15, 17.20** Х/ф "Хирургия".
**09.00** Клуб путешественников.
**09.40** Смак.
**10.00** Домашняя библиотека.
**10.25** Играй, гармонь!
**11.15** "Вместе".
**14.20** "Принцесса на горошине".
**15.55** Улица Сезам.
**16.25** "50 Х 50".
**18.10** Здоровье.
**18.45** Поле чудес.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Х/ф "Все поставлено на карту".
**22.35** Взгляд.
**23.35** Х/ф "Три придурка с поросенком".

**РТР**

**07.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**07.20, 23.15** Дежурная часть.
**07.35, 17.55** "Королева Марго".
**08.30** Деньги.
**08.50** Торговый дом.
**9.05** "Санта-Барбара".
**13.30** Х/ф "Мсье Робина".
**15.00** М/ф.
**15.10** Графоман.
**15.20** Лучше не бывает.
**15.25** Эксповестник.
**15.30** Парламентарий.
**16.20** Православный календарь.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.20** Лукоморье.
**17.40** "История одного события".
**17.55** "Королева Марго".
**19.25** Подробности.
**19.45** L-клуб.
**20.15** "Альфред". 2-я с.
**21.20** Слабо?
**22.20** Вовремя.
**22.25** Добрый вечер.
**23.40** "Whitesnake".
**01.05** Ночная жизнь.

**КУЛЬТУРА**

**07.00** Музыка.
**07.15, 13.00, 20.00, 23.00** Новости.
**07.30, 20.20** Берлин.
**08.30** "Полубог".
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Золотая карта.
**09.31** Ж.Бизе. "Кармен".
**10.35** "Порфирородная".
**11.05** Х/ф "Испытание верности".
**13.15** "Мы радостно жили".
**13.55** "Видеопоэзия".
**14.05** Посольские вечера.
**15.05** Полчаса на чудеса.
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** "Культура городов мира".
**17.05** "2003 год".
**17.10** "Музыка из Петербурга".
**17.50** "Демо".
**18.00** Лукоморье.
**18.20** М/ф.
**18.30** "Вечер с..."
**21.20** Рената Скотто.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер"
**09.15** Своя игра.
**09.45, 17.20** Криминал.
**10.00** "Доктор Куин, женщина-врач".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня.
**11.20** Старый телевизор.
**12.30** Время "Ч".
**13.20** Х/ф "Дорога на Аризону" (США).
**15.20** Устами младенца.
**15.50** "Сансет Бич".
**16.40** Д/ф "Дикая природа".
**17.10** Впрок.
**17.30, 00.10** Фигурное катание.
**18.00, 21.00, 23.00** Сегодня
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Миллион в брачной корзине".
**21.45** "Доктор Куин".
**22.35** Сегодняшко.
**23.30** "Империя страсти".
**00.30** Эротические шоу мира.

**ТВ-6**

**06.05** М/ф
**06.35, 17.00, 23.50, 01.00** Диск-канал
**07.05, 23,35** Дорожный патруль.
**07.20** Рецепты от Цептер
**07.45, 10.45, 13.45** Аптека
**08.00, 11.00, 14.00, 23.20** ТСН-6
**08.15** "Сделай шаг"
**09.40, 19.00** "Хроники Джона"
**11.10** Х/ф "Красный жар"
**14.10** Х/ф "Без свидетелей"
**16.05** "Флиппер II"
**16.35** Те Кто
**17.50** "Грейс в огне IV"
**18.20, 20.00** Новости
**18.25** Назло рекордам!
**20.25** Х/ф "Приключения раввина Якова"
**22.20** "Обоз"

